**Ніва**

**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 4 (830) ГОД XVII БЕЛАСТОК 23 СТУДЗЕНЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.

ДА 80-АЙ ГАДАВІНЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ БРАНІСЛАВА ТАРАШКЕВІЧА

# ЗМАГАР ЗА ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНУЮ ЕДНАСЦЬ

У класавых баях паміж працоўнымі масамі і эксплуататарамі, што разгарэліся з першых дзён існавання міжваеннай Польшчы, віднае месца займае Браніслаў Тарашкевіч. Уся яго грамадская і палітычная дзейнасць — гэта шлях адданага патрыёта і непахіснага інтэрнацыяналіста, які бачыў светлую будучыню польскага, беларускага і украінскага народаў у брацкім сужыцці ва ўмовах народнай улады. Сыходзячы з такой праграмы, ён паслядоўна і востра выступаў супроць буржуазнага ўрада ў абароне інтэрэсаў польскіх, беларускіх і ўкраінскіх рабочых і незаможных сялян тагачаснай польскай дзяржавы.

У сваім выступленні з трыбуны сейма 23 студзеня 1923 г. Б. Тарашкевіч асуджаў унутраную і знешнюю палітыку тагачаснага ўрада, які распаўсюджваў у краіне чад нацыяналізму і праводзіў курс на ізаляцыю Польшчы ад сваіх суседзяў. «Некаторыя класы польскага грамадства ёсць хворыя на нянавісць, — гаварыў ён. — Нянавісць гэтую сеюць ва ўсе бакі. Ненавідзяць немцаў, ненавідзяць кожнага суседа: ненавідзяць рускага, ненавідзяць беларуса,... ненавідзяць украінца». І далей Б. Тарашкевіч паказваў сеўцаў гэтай нянавісці і мэты, якія яны імкнуцца дасягнуць пры яе дапамозе: «Дасканала разумею, што ў пашырэнні ўсёй гэтай нянавісці ёсць несумненная дэмагогія, дэмагогія класаў, якія чуюць набліжэнне свайго канца, гэта значыць, іменна тых класаў, якім зямля ўцякае з-пад ног. У нас гэта клас зямянства, які, адчуваючы гэта, хоча абаперці ўсю сваю сілу і нават сваю здольнасць да барацьбы на гэтай нянавісці. У галовах ап'янелых нянавісцю нараджаюцца мроі вельмі небяспечныя для польскай дзяржаўнасці і для здароўя ўсяго польскага народу».



Б. Тарашкевіч заўсёды паслядоўна выступаў за еднасць паміж польскім і беларускім народамі. Гэта мы бачым у яго прамове ў сейме ад 26 чэрвеня 1923 г.: «...ляжыць таксама ў інтарэсе дзяржавы, як і ў інтарэсе беларусаў ...засыпаць пропасць, якую гісторыя выкапала паміж народамі польскім і беларускім, а да паглыблення якой прычыніўся царскі ўрад». Ён усямерна асуджаў насад-

Працяг на стар. 4

## ДА VII З'ЕЗДУ БГКТ

# Пра што гавораць у гуртках

Справаздачна-выбарная кампанія Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы да VII з'езду ў поўным ходзе. За намі ўжо адзін этап гэтай кампаніі: за намі сходы, праведзеныя ў двух трэціх усіх гурткоў БГКТ, перад намі першыя павятовыя канферэнцыі. Паколькі гурток з'яўляецца першым і асноўным звяном у дзейнасці БГКТ, напрасілі мы выказацца на тэму датыхчасовай кампаніі, асноўных яе праблем і напрамкаў сакратара ГП БГКТ Янку Зенюка.

— Наша кампанія вядзецца ў спрыяльным клімаце пасля VII і VIII пленумаў ЦК партыі, VI з'езду ПАРП і святкавання 15-годдзя нашай арганізацыі. Назіраем узрост ролі і значэння таварыства ў жыцці беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Сходы ў гуртках праходзяць двума ступенямі: першы — падрыхтоўчы, калі абмяркоўваюцца і парадкуюцца ўсе арганізацыйныя недахопы, і другі — уласцівы сход з шырокім дыяпазонам спраў і праблем, якія ставяць гурткі і не толькі ставяць, але і вырашаюць у атмасферы актыўнай працы, клапатлівасці і адказнасці за супольныя справы.

Дзейнасць гуртка БГКТ у вёсцы мае велізарнае значэнне, пашыраюцца формы яе і прыбываюць новыя сілы — сходы нашых гурткоў прыцягваюць дзесяткі людзей, а многія з іх з уласнай волі і ахвоты дзеянна ўступаюць у арганізацыю.

Гурткі наладжваюць сувязь з усімі іншымі арганізацыямі і перш за ўсё з ЗМВ. Супрацоўніцтва гэта добра служыць вёсцы.

На сходах гурткоў прысутнічаюць сакратары грамадскіх камітэтаў партыі, старшыні ГРН-аў, прадстаўнікі ЗМВ, ЗСЛ, солтысы. Гэта сведчыць аб тым, што гурток наш на вёсцы патрэбен, што з'яўляецца важным элементам жыцця вёскі.

Праблемы, якія найчасцей выступалі на сходах гурткоў: 1) Палепшыць арганізацыю конкурсаў і аглядаў на беларускую песню і драмгурткі. Усюды кры-

(Працяг на стар. 5)



*Да артыкула «Усе радасці і адзін смутак Г. і З. Кульчакевічаў» (стар. 3).*




*„...Zawojowanie Białorusi albo inaczej ziemi Krywiczan przez Litwinów, wówczas jeszcze pogańskich, zapewnia kulturze białoruskiej stanowisko uprzywilejowane, gdyż Białorusini przewyższali nią swoich ujarzmicieli. Toteż językiem dworu i urzędu w Wielkim Księstwie Litewskim był język białoruski, który do XVII w. zachował to uprzywilejowane stanowisko; we wspomnianym wieku panowie litewsko-białoruscy poczęli coraz częściej mówić i pisać po polsku, a mowa białoruska pozostała i przechowała się nadal u ludu..."*

(З прадмовы да зборніка «Беларускія вершы», які выйшаў нядаўна ў Лодзі. На стар. 3 чытайце рэцэнзію на гэты зборнік. Уверсе вокладка кніжкі).

## БГКТ ХРОНІКА

■ Галоўнае праўленне закупіла харавым калектывам аддзелаў у Бельску Падляшскім і Беластоку новыя касцюмы.

■ Нядаўна ў Стрыках на Бельшчыне арганізаваўся новы 20-асабовы гурток БГКТ, які ўзначальвае Леаніла Лапінская. Гурток гэты падрыхтаваў дзве п'есы «Міхалка» і «Боты» і 8-га студзеня выступіў з імі ў мясцовай школе.

■ Павятовая рада нарадовая ў Гайнаўцы прызнала тры грашовыя ўзнагароды найлепшым дзеячам культуры, якія ў мінулым годзе выказаліся найбольшымі дасягненнямі і ахвярнасцю ў культурна-асветнай працы. Дзве асобы гэта актывісты БГКТ. З'яўляюцца імі сакратар аддзела Віктар Бура і працаўнік аддзела культуры ПРН Марыся Крук, якая адначасова з'яўляецца членам харавога калектыву аддзела БГКТ.

■ У вёсцы Камень з-за недахопу дзяцей ліквідавалася 4-класная школа. Дзякуючы намаганням гуртка БГКТ і дапамозе ў гэтай справе гайнаўскага аддзела БГКТ былое школьнае памяшканне прызначана на святліцу.

■ Гайнаўскі харавы калектыў пад мастацкім кіраўніцтвам Аляксандра Лукашука рыхтуе новую праграму, з якою выступіць на ўрачыстасці, прысвечанай гадавіне Савецкай Арміі. 5 асоб з хору рыхтуецца да конкурсу на беларускую песню.

■ Два тыдні таму назад адбыўся справаздачна-выбарны сход гуртка БГКТ у Патоцы (Беластоцкі павет). Са справаздачай выступіў Мікалай Краўчук. Пасля дыскусіі і прыняцця плана працы было выбрана новае праўленне гуртка і дэлегаты на канферэнцыю аддзела. У склад праўлення ўвайшлі: Мікалай Краўчук — старшыня, Аляксандр Валасевіч — сакратар і Аляксандр Клімюк — скарбнік.

■ Рэгулярнае аплочванне членскіх складчын з'яўляецца адным з асноўных абавязкаў кожнага нашага сябра. А вось як выглядае гэтая справа ў паасобных аддзелах: у Беластоцкім павятовым аддзеле ў 1971 годзе аплаціла складчыны 83%, у Сямяціцкім — 73%, у Гданьскім — 61%. Найгорш з аплочваннем членскіх складчын у Бельскім аддзеле. Там толькі 17% членаў БГКТ выканала гэты статутовы абавязак.

(мх)

# ЗМС у Бельску

Саюз сацыялістычнай моладзі (ЗМС) у Бельску Падляшскім налічвае 1017 членаў, аб'яднаных у 44 гуртках. Гэтая маладзёжная арганізацыя дзейнічае ў горадзе. Мае яна на сваім рахунку вялікія дасягненні. За два гады падрыхтавала яна да ПАРП 136 чалавек. Паасобныя гурткі, пераважна ў сярэдніх школах, арганізоўваюць папулярна-навуковыя сесіі. Былі яны прысвечаны 25-ай гадавіне Народнай Польшчы, 25-ай гадавіне Войска Польскага, 100-ай гадавіне з дня нараджэння У. Леніна і іншыя. На прадпрыемствах 21 брыгада змагаецца за званне «Брыгады сацыялістычнай працы» і 14 з іх удастоена гэтага звання. ЗМС з'яўляецца таксама арганізатарам добраахвотных гуфцаў працы. Пры філіяле Беластоцкай фабрыкі прыладаў і ўхвытаў члены ЗМС (старшыня Лявон Бэнадычук) дадаткова, грамадскім чынам пры прадукцыі працавалі 2100 рабочагадзін.

Да перадавых гурткоў ЗМС залічаецца таксама гурток ЗМС у ВСС «Сполэм», які ўзначальвае Ірэна Врублеўская, і нядаўна арганізаваны гурток пры Засаднічай будаўлянай школе Бельскага будаўлянага прадпрыемства. (мх)



*Дарожны выпадак.* *Фота Я. Цялушэцкі.*

# На дарогах

Матарызацыя ў нашай краіне стала таму моднай, што яна неабходна пры пабудове лепшага заўтра. Інакш гаворачы, матарызацыя гэта ні распуста, як гавораць некаторыя, ні няшчасце, як думаюць іншыя. Высокае развіццё матарызацыі характэрна для высокапрамысловых краін і рэгіёнаў і яно чакае нас.

Вось некалькі неабходных лікаў з Беласточчыны.

У ваяводстве існуе больш 8 тысяч кіламетраў дзяржаўных і лакальных дарог. Па гэтых дарогах у мінулым годзе ездзіла больш 136 тысяч самаходавых сродкаў транспарту (столькі было зарэгістраваных у аддзелах камунікацыі). Для лепшага ўяўлення трэба дадаць, што ў 1961 годзе ў ваяводстве было зарэгістравана толькі 34.900 самаходавых сродкаў транспарту. Гэта сведчыць не толькі аб трохкратным узросце, але і аб тым, што за гэты перыяд тэмп павелічэння колькасці самаходаў і матацыклаў у Беластоцкім ваяводстве апярэджваў іншыя ваяводствы краіны.

Нельга не цешыцца з гэтых лікаў. Аднак вядома, што большая колькасць самаходаў і матацыклаў на дарогах — гэта большая колькасць дарожных выпадкаў. Праўда, грамадская думка падзелена адносна дарожных выпадкаў: адны гавораць, што каб не было гэтых самаходаў і матацыклаў, дык і выпадкаў не было б, а другія сцвярджаюць, што каб не пешыя і фурманкі, дык дарожныя выпадкі таксама можна было б ліквідаваць.

Жыццё паказвае нешта іншае. Нягледзячы на тое, што колькасць самаходаў павялічылася ў нашым ваяводстве ў тры разы, г. зн. на 200 прац., то колькасць дарожных выпадкаў павялічылася толькі на 52 прац. Калі ў 1961 годзе на 10 тыс. аўтамабільных сродкаў транспарту прыпадала 111 дарожных выпадкаў, дык у 1970 годзе на такую ж колькасць самаходаў выпадала 55 выпадкаў.

Мы не кажам, што ўсё тут добра, тым больш, што зараз менш людзей памірае ад інфекцыйных хвароб, чымсьці гіне ў дарожных выпадках. Аднак вышэй паказаныя лікі сведчаць аб тым, што дарожныя выпадкі не мусяць прама прапарцыянальна залежаць ад колькасці самаходаў.

Аналіз дарожных выпадкаў у нашым ваяводстве гаворыць, што 95 працэнтаў з іх выклікаюць людзі — пешаходы і людзі, кіруючыя сродкамі транспарту. Тыя, хто кіруе сродкамі транспарту, павінен знаць правілы руху. Аднак асноўных правіл, якія датычаць іх, не могуць не знаць і пешаходы. Вось прыклад. За 11 месяцаў мінулага года здарыліся ў ваяводстве 232 дарожныя выпадкі. 146 з іх былі выкліканы пешаходамі. Маючы на ўвазе здароўе і жыццё ўсіх, хто карыстаецца дарогамі — пешаходаў, веласіпедыстаў і шафёраў, звяртаемся да пешаходаў быць разважнымі, асцярожнымі і не забывацца аб правілах дарожнага руху. (ак)

# Людзі БГКТ

## Яўген Жамойда

Быць перадавым гаспадаром — гэта значыць, на той самай колькасці і якасці зямельных угоддзяў атрымоўваць больш ад сваіх аднавяскоўцаў збожжа, трымаць больш кароў і свіней, ды больш прадаваць мяса для дзяржавы, лепей выкарыстоўваць у штодзённай працы сельскагаспадарчыя машыны і, зразумела, больш працаваць. Да перадавых гаспадароў Сакольшчыны залічаецца, сакратар гуртка БГКТ у Паўднёвым Востраве Яўген Жамойда. Ён нядаўна быў узнагароджаны нашымі ўладамі Сярэбраным Крыжам заслугі. Генё Жамойда спецыялізуецца ў гадоўлі свіней. У мінулым 1971 годзе адвёз ён на пункт скупу 12 штук кормнікаў і ўсе яны былі залічаны да І-ай катэгорыі. У 1965 годзе малады гаспадар пабудаваў хату, а пасля хлявы, свіронак і склеп. У мінулым годзе залажыў «сілу», купіў млынок-сьрутоўнік, крайзэгу, зрабіў сучаснае абсталяванне хаты, у тым ліку купіў і тэлевізар. Мае ён сваю сенакасілку, жнярку і карыстаецца машынамі мясцовага сельскагаспадарчага гуртка, у якім выконвае функцыю старшыні рэвізійнай камісіі. З'яўляецца ён сапраўдным дзеячом сваёй вёскі. Яго парады заўсёды каштоўныя, таму і выбіраюць яго аднавяскоўцы ва ўсе мясцовыя арганізацыі. У БГКТ выконвае ён функцыю старшыні гуртка. Ад 16-га снежня з'яўляецца сакратаром. Ён і сакратар ЗМВ, і прэзас ЛОК-у, і радны ГРН. На сесіях ГРН ён заўсёды актыўны. На апошняй ставіў ён справу даезду да сваёй і суседніх вёсак аўтобуса ПКС-у, які значна аблегчыў бы сялянам спалучэнне з паўятовым і ваяводскім гарадамі, гэта значыць, з Саколкай і Беластокам, куды часта даводзіцца ездзіць па розных справах.

*М. Хмялеўскі*
*фота. Я. Цялушэцкі*



Пачатак на стар. 1

# Змагар за інтэрнацыянальную еднасць

жэнне ўрадам у Заходняй Беларусі польскіх асаднікаў у той час, калі беларуская вёска пакутавала ад беззямелля. І таму ў сеймавым выступленні ад 3 жніўня 1923 г. Б. Тарашкевіч гаварыў: «...калі ж пэройдзем да гэтай надта вярэдзячай справы — да асадніцтва — дык няспынна, з дня ў дзень, з секунды на секунду выкопваецца пропасць нянавісці паміж беларускім грамадствам і польскім народам».

Б. Тарашкевіч, выражаючы імкненні беззямельнага і малазямельнага сялянства ўсяе Польшчы, дамагаўся правядзення зямельнай рэформы. Калі ж з усяе ўнутранай палітыкі ўрада было відаць, што рэформы не будзе, Б. Тарашкевіч у прамове на сейме 4 снежня 1924 г. сцвярджаў: «Зямельнай рэформы не было, няма яе, і вы, паны, гэтай рэформы не зробіце, бо не хочаце яе зрабіць. Зямельную рэформу народ сам хіба ж зробіць, калі сам возьмецца дзяліць зямлю (галасы з сеймавай залы: «Які народ? якім чынам?»). Увесь народ, не толькі беларускі і ўкраінскі, але таксама і польскі, дачакаецеся, паны, і гэтага».

Праз некалькі месяцаў, калі ў чэрвені 1925 года паслы Камуністычнай партыі Польшчы, Нацыянальнай сялянскай партыі і беларускай «Грамады» ўтварылі ў сейме супольны блок, Браніслаў Тарашкевіч, выступаючы з прамовай ад імя гэтага блока, гаварыў: «Мы ўносім сваю прапанову, якая абапіраецца на тры пункты: зямля без выкупу, без кампенсацыі; падзел зямлі сялянскімі камітэтамі; максімум ад 30 да 60 га. Толькі такая рэформа сапраўды дасць зямлю сялянскім масам і стане падставай для адбудовы новай грамадскай структуры, абароніць нас ад асадніцтва і стане асновай сапраўды братэрскага ўзаемаразумення народаў».

Канчаткова пераканаўшыся, што ва ўмовах буржуазнай Польшчы парламенцкая барацьба не ў сілах змяніць у краіне штоколечы на карысць працоўных, Б. Тарашкевіч з сеймавай трыбуны 25 красавіка 1925 г. заклікае: «Беларускі селянін, беларускія працоўныя масы павінны ў гэтай барацьбе падаць руку ўкраінскім, польскім сялянам і ўсяму працоўнаму люду, бо толькі супольным фронтам — селянін поплеч з селянінам, селянін поплеч з рабочым — на роўных правах могуць здабыць для сябе сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, вызваленне палітычнае і нацыянальнае адраджэнне».

У студзені 1927 г. Б. Тарашкевіч быў пазбаўлены сеймам права нетыкальнасці і разам з 850 дзеячамі «Грамады» арыштаваны. Толькі 23 лютага 1928 г. буржуазны ўрад адважыўся правесці суд над правадыром беларускіх працоўных мас. У сваім апошнім слове ў часе працэсу Б. Тарашкевіч зусім не скрываў свайго запаветнага ідэалу, за які ён змагаўся: «У БССР будуецца беларускі дом, — гаварыў ён. — Саветы з'яўляюцца першым крокам у канкрэтнай гісторыі сацыялізму». Іменна ў грамадскім ладзе СССР — дзяржаве рабочых і сялян, дзе ўсе народы маюць роўныя правы да развіцця свае прагрэсіўнай нацыянальнай культуры, — бачыў ён ідэал дзяржавы, заснаванай на братэрстве народаў. І пацвердзіў гэта ў адозве, напісанай ім у 1928 годзе ў турме ў Грудзёндзы і патаемна высланай на волю. Б. Тарашкевіч сцвярджаў у ёй: «Я абапіраюся на Маркса, я не нацыяналіст. Рашэнне беларускай справы, як наогул усіх нацыянальных спраў... бачу праз сацыялістычную рэвалюцыю».

Гэтыя словы Браніслаў Тарашкевіч выказаў тады, калі, знаходзячыся ў тоўстых мурах санацыйнай турмы, усяго сябе прысвяціў перакладу на беларускую мову жамчужыны польскай літаратуры — «Пана Тадэуша» Адама Міцкевіча.

*Ігнат Снарскі*

## Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# Перыяд Вялікага княства Літоўскага

ПАЭЗІЯ — ЧАСТКА II.

Сімеон Полацкі — (1629—1680). Па сутнасці з'яўляецца адзіным паўнавартасным паэтам у перыяд Вялікага княства Літоўскага. Паэт з акрэсленай вобразнай сістэмай і метафорыкай. Належыць, уласна кажучы, да трох літаратур: беларускай, рускай і польскай. Сапраўднае прозвішча Полацкага вельмі доўгае. Самуіл Емельянавіч Пятроўскі-Сітнеовіч. Нарадзіўся Полацкі, праўдападобна, недалёка Полацка ў заможнай сям'і. Заможнасць бацькоў дазволіла яму вучыцца ў Кіева-Магілёўскай калегіі, якая мела правы вышэйшай школы. У тагачасных школах тыпу калегіі выкладаліся такія прадметы, як рыторыка і паэтыка. Відаць, яны ўплылі на развіццё паэтычных схільнасцей Полацкага. Тым больш, што ўсе вучні былі абавязаны пісаць вершы з нагоды розных урачыстасцей і свят. Мяркуюць, што Полацкі вучыўся таксама ў Віленскай езуіцкай калегіі.

Калі вестка аб прабыванні Полацкага ў Віленскай калегіі праўдзівая, дык у факце сувязей Полацкага з калегіяй трэба шукаць дадатковай прычыны развіцця яго паэтычных здольнасцей. А гэта таму, што ў езуіцкіх калегіях паэтычныя практыкаванні і навука аб паэзіі сталі на вельмі высокім узроўні.

Чым займаўся Полацкі пасля заканчэння школы? Вестак на гэтую тэму захавалася не многа. Быў настаўнікам брацкай школы праваслаўнага Багаяўленскага манастыра ў Полацку, у пазнейшы час пастрыгся ў манахі. Манастырскае жыццё Полацкага не праходзіла без канфліктаў і трывог. З прычыны нейкага там паклёпу Полацкі быў пасаджаны ў келію, а пасля быў прымушаны дагладаць жывёлу. Умеў аднак перад мітрапалітам Калістам даказаць сваю нявіннасць і зноў вярнуўся да сваіх нармальных заняткаў. Як манах і вучоны — прадстаўнік праваслаўнага жыцця ў Полацку сустрэўся з рускім царом Аляксеем Міхайлавічам, які наведаў гэты горад. Праўдападобна, веды Полацкага і яго паэзія зрабілі добрае ўражанне на рускага цара. У 1660 годзе Полацкі паехаў у Маскву. Даследчык Прашковіч лічыць, што Полацкі паехаў з намерам прасіць у рускага цара дапамогі для Багаяўленскага манастыра. Ці рускі цар заахвочваў Полацкага застацца ў Маскве, сказаць цяжка. Так ці інакш, праз чатыры гады Полацкі пакінуў Беларусь і назаўсёды пераехаў у Маскву.

У Маскве пачынаецца другі перыяд у жыцці, дзейнасці і творчасці Полацкага. Займаўся ён многімі справамі. Перш за ўсё выхоўваў і вучыў царскіх дзяцей. Між іншым, вучыў маладога Пятра Вялікага. Адыграў таксама вялікую ролю як суарганізатар Славяна-грэка-лацінскай акадэміі. Полацкі рашуча выступаў за збліжэнне Расіі з Захадам, і таму можам яго назваць адным з першых «заходнікаў» у рускай культуры. Выступаў Полацкі перш за ўсё ў справах культуры, літаратуры і мовы. Быў ён гарачым прыхільнікам увядзення ў Расіі навучання латыні і дабіўся гэтага ў названай ужо намі Акадэміі. Справа ў тым, што літаратура ў многіх краінах Еўропы ў значнай ступені развівалася на лацінскай мове. Латынь ужывалася таксама ў навуцы. Полацкі хацеў такім чынам наблізіць Расію да культуры і літаратуры заходнееўрапейскай. Няма сумнення, што імкненні і тэндэнцыі Полацкага мелі вялікі ўплыў на развіццё асабовасці Пятра І. І ў тым факце, што Пётр І пайшоў на шырокую мадэрнізацыю Расіі паводле заходнееўрапейскіх узораў, трэба бачыць вялікую ролю Полацкага. Ваюючы ў Маскве з усходняй «грэчаскай» школай, зашчапляючы рускай навуцы і літаратуры заходнюю арыентацыю, Полацкі адкрыў дарогу і заходнееўрапейскаму вершаскладанню і заходняму тэатру, які дагэтуль не быў у Расіі з'явай шырока вядомай.

Як паэт Полацкі па сутнасці належыць тром народам: беларусам, палякам і рускім. У яго спадчыне, найчасцей да сёння яшчэ не апублікаванай, знаходзяцца паэзія і драматургія пісаныя на старабеларускай, стараславянскай, польскай і рускай мовах. Частка гэтага аднак ужо апублікавана і на яе падставе можам судзіць аб галоўных кірунках, ідэях і спецыфіцы паэтыкі ў творчасці Полацкага. Полацкі быў асветнікам, маралістам. І таму асветніцтва, маралістыка пранізваюць усю яго творчасць. Паэт быў, несумненна, верным служкай царквы і хрысціянства, не мысліў ён чалавека па-за- хрысціян-

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# ІДЗЕ МАГІЛЁЎСКІ ЛАЎСАН

«Пабудаваць Магілёўскі камбінат сінтэтычнага валакна» — так лаканічна было запісана шэсць год назад у дырэктывах па восьмаму пяцігадоваму плану аб новым гіганце беларускай хіміі.

Цяпер на беразе сівога Дняпра на 120-гектарнай плошчы ўзвышаюцца дзесяткі жалезабетонных карпусоў, паміж якімі пралеглі галерэі, транспартныя эстакады, сотні кіламетраў трубаправодаў. У мінулай пяцігодцы тут вырас комплекс па вытворчасці дзімеціл — церафталата — зыходнай сыравіны для атрымання паліяфірных валокан, а таксама найбольшая ў Еўропе штапельная вытворчасць.

Выкананне такога аб'ёму работ патрабавала вялікіх намаганняў калектыву будаўнікоў. Ім давялося перамясціць 16 мільёнаў кубаметраў грунту, змантаваць 320 тысяч кубаметраў жалезабетонных і 30 тысяч металічных канструкцый, улажыць звыш 400 тысяч кубаметраў маналітнага жалезабетону і 100 мільёнаў штук цэглы, зашкліць 340 тысяч квадратных метраў вокан, прыкрыць дзесяткі гектараў дахаў...

Такім чынам, у новую пяцігодку (1971—1975) Магілёўскі камбінат штучнага валакна ўступіў у строй дзейнічаючых прадпрыемстваў. Цяпер штомесячна ў розныя гарады Савецкага Саюза і рэспублікі ідзе звыш тысячы тон лаўсану. Найбольшымі спажыўцамі магілёўскага валакна сталі камвольныя камбінаты краіны. Дабаўленае ў шэрсць яно робіць тканіны больш прыгожымі і моцнымі.



*Тэхнічныя эстакады трубапровода да цэха палімерызацыі.*

Так, мінскія камвольшчыкі дабаўляюць у касцюмныя тканіны да 45 працэнтаў магілёўскага лаўсану. Шырока выкарыстоўваюць яго і аршанскія тэкстыльшчыкі. Вялікім попытам таксама карыстаюцца і тканіны з бавоўны з дамешкай лаўсану.

У мінулым годзе на камбінаце было атрымана філаментнае валакно. У адрозненне ад штапельнага яно мае не рэзаную нітку, а суцэльную, якой можна прыдаць розныя колеры і адценні. З шоўку, сатканага з такіх нітак, можна шыць прыгожыя касцюмы, сукенкі і моцную дзіцячую вопратку. Ніткі грубейшыя прыдатны для вырабу корда, рыбацкіх сетак, транспартных стужак, пажарных рукавоў, брызентаў і парусаў, марскіх канатаў і г.д. Паліяфірная тканіна не дае ўсадкі, устойлівая на ўздзеянне святла і мікраарганізмаў, не баіцца вільгаці, дрэнна праводзіць электрычны ток. Па сваіх якасцях яна сапраўды ўніверсальная, мае неабмежаваныя магчымасці практычнага прымянення. І калі спачатку прадбачвалася магутнасць Магілёўскага камбіната сінтэтычнага валакна на 50 000 тон лаўсану ў год, дык потым былі зроблены ўдакладненні, і на тэрыторыі камбіната з'явіліся новыя будаўнічыя пляцоўкі.

Вытворчасць па выпуску філаментнага валакна будзе самай магутнай на прадпрыемстве. Адзін толькі яго галоўны корпус займае 16 гектараў. Праектная магутнасць новай вытворчасці 24 тысячы тон шоўку ў год для вырабу тэхнічных матэрыялаў і 6 тысяч тон — для вырабу тавараў народнага ўжытку. Вытворчасць штучнага валакна будзе павялічвацца і ў 1975 годзе дасягне 87 тысяч у год. Магілёўскі камбінат будзе найбольшым у Еўропе прадпрыемствам такога тыпу.

*Рыгор Баршчэўскі*
*фота. В Казлова*



*Круцільна-выцяжны цэх.*




## УСЁ ПРА КАШУ

Нясмачная каша — гэта значыць, дрэнна звараная. Бо возьмем, напрыклад, пярловую кашу — упражаную, як трэба, кожнае зерне аддзелена, палітую смачным грыбным соусам; альбо гарачую грэчневую кашу, рассыпаючуюся, палітую румянымі скваркамі, packed пададзеную з салодкім або кіслым малаком.

Аднак кашу трэба ўмець варыць, знаць прапорцыю вады, умела спалучаць дадаткі. Трэба ведаць таксама, што крупы багатыя вугляводамі, што ёсць у іх бялок, фосфар, жалеза і вітаміны з групы В, але бялок гэты, як бялок усіх раслінных прадуктаў, няпоўнавартасны. Таму добра было б спалучаць кашы з мясам, яечкамі, сырам, малаком. Больш вартаснымі з'яўляюцца буйныя кашы, паколькі каштоўныя складнікі знаходзяцца зараз жа пад луской, аднак гэта не для людзей з хворым страўнікам, для іх кашы трэба добра разварваць і праціраць праз сіта, менавіта, каб не трапіліся рэшткі лусак.

Як зварыць кашу, каб не «калола ў зубы» і не была густой адналітай масай? Усе больш буйныя гатункі круп неабходна перад тым, як варыць, абпаласкаць у летняй вадзе, а дробныя — прасеяць, каб пазбавіць мучнога пылу. Пасля заліць гарачай вадой у адпаведнай прапорцыі, у спецыяльнай, падвойнай каструльцы, альбо проста: падварыўшы кашу, завярнуць каструльку ў газеты, фолію і коўдру і так пакінуць на некалькі гадзін. Адпаведныя прапорцыі вадкасці (можа быць не толькі вада, але і вада з малаком, навар з гародніны, булён, навар з грыбоў) для буйнейшай крупы — 2 шклянкі вадкасці на 1 шклянку крупы, для крупы драбнейшай — 1,5 шклянкі вадкасці на 1 шклянку крупы.

Варачы кашу традыцыйным спосабам, неабходна памятаць, што нельга ставіць каструлю з кашай на адкрытым агні, заўсёды пад каструлю трэба падлажыць асбеставую плітку, калі ўсё ж каша прыстане да дна — на 15 мінут уставіць каструлю ў халодную ваду.

## КАТЛЕТЫ З ЯЧМЕННАЙ КАШЫ

4—5 сушаных грыбкоў намачыць, назаўтра зварыць у той жа вадзе, даліваючы яе па меры таго, як будзе выпароўвацца, так каб засталася прыблізна шклянка навару. Зварыць кашу. Павінна яна быць сыпкая. Астудзіць яе і дадаць пасечаныя грыбы, адно зваранае, пасечанае яйцо, пасмажаную на лыжцы тлушчу, вельмі дробна нарэзаную цыбульку, соль, перац і сырое яйцо. Добра размяшаць усё і рабіць невялікія катлеткі, мачаць іх у цёртую булку і смажыць з абодвух бакоў. Падаваць з грыбным соусам, які робяць наступным чынам: муку падрумяніць на лыжцы тлушчу, развесці астуджаным наварам з грыбоў, дадаць перцу, солі, закіпяціць, а, зняўшы з агню, дадаць паўшклянкі смятаны.

*Гаспадыня*




## ТАНДЭТА

Сонца стаяла ўжо высока, калі мы ўехалі ў горад. Я не бачыў яго: у закрытай машыне з завешанымі вокнамі сталі паўпоцемкі. Машына доўга пятляла, пакуль не спынілася на вуліцы Паморскай — ля кракаўскага гестапа.

Мяне чакалі. Адразу прывялі на другі паверх. У пакоі следчага, відаць, спецыяліста па дэсантніках, кінуліся ў вочы рацыі ды рукзакі савецкай вытворчасці. Следчы заўважыў сталёвую бранзалетку. Паморшчыўся. Загадаў зняць. Прапанаваў цыгарэту. І зусім не спяшаўся з допытам. Запрасіў да століка. Пачаў частаваць смажаным мясам, вермішэлем з мёдам. Ён аказаўся жартаўніком-філосафам, гэты ветлівы гестапавец.

— Жывы сабака, — падміргнуў ён мне, — лепш за мёртвага льва. Так, прыяцель?

Вёў допыт, перасыпаючы яго жартамі-прымаўкамі накшталт таго, што «аўчына варта вырабу», што «зняўшы галаву, па валасах не плачуць» і што некаторыя правінцыйныя следчыя (намёк на Катовіцэ) разбіраюцца ў справах разведкі, «як свіння ў апельсінах».

Гэтыя рускія прымаўкі на правільнай рускай мове, амаль без акцэнту, на вуснах мацёрага ворага гучалі больш крыўдна і кашчунна за самую брудную лаянку і пагрозу. Ён лічыў мяне паслухмяным, прыціснуўшым хвост сабакам, заарканеным настолькі, што ўжо не вельмі важна, можна яму верыць цалкам ці не.

Следчы пазваніў. Вынеслі цёмна-сіні касцюм, адпрасаваны, ачышчаны ад плям крыві, туфлі, кепку, пяць тысяч злотых, батарэі і цыгарэты.

— Апранайся, прыяцель, і за работу. Пойдзеш на рынак і будзеш прадаваць свой гадзіннік.

У закрытай машыне мяне давезлі да паштамта. Перакладчык яшчэ раз напомніў настаўленне «веселуна», расказаў, як папасці на рынак.

Прыйшоў на месца, дзе прадаюць гадзіннікі. Вельмі няручнае месца для ўцёкаў: вузкі завулак і мала людзей. Побач са мною тут жа выраслі маўклівыя хлопцы — таксама з «Амегамі». Куды я, туды і яны. Я заламаў такую цану, што пакупнікі адзін за адным адыходзілі расчараваныя. Пад вечар мяне адвезлі ў Мантэлюпіху — кракаўскую турму гестапа. Днём у тым жа суправаджэнні зноў на работу...

...Тандэта толькі з першага погляду здавалася хаатычнай. Вялізны вулей падзяляўся на соты: абутковыя і на запальніцы, жаночага адзення і мужчынскага, соты валютныя, дзе, нібы ў руках фокуснікаў, мільгацелі маркі, долары, фунты.

А вось і наша вулачка. Дастаю сваю «Амегу». Ходзім з праваднікамі, нібы прывязаныя адзін да аднаго: ніяк нельга адарвацца. К канцу дня падышоў да мяне нейкі мужчына, патупаўся, запытаў (я нават уздрыгануўся ад гукаў роднай мовы):

— Эвакуіраваны?

— Так.

— Адкуль, зямляча?

Пытанні нагадвалі пароль і мае целаахоўнікі насцярожыліся. Хацелася крыкнуць: «Згінь, зрікні! Гэта ж я, я цябе выдумаў!»

У мяне ўсё ў сярэдзіне заныла. А што, калі наш чалавек, што, калі пападзецца на ўяўнай, падсадной качцы? Але гадзіннік таргаваць «зямляк» не стаў. Адышоў. І зноў — ніякай магчымасці ўцячы.

## УЦЁКІ

Шчыра кажучы, я пачаў ужо страчваць веру. У маім распараджэнні заставаўся адзін дзень. Я зразумеў, што дапусціў сур'ёзную памылку, абмяжоўваючы такім кароткім тэрмінам час уяўнай сустрэчы. Гестапаўцы нервуюцца, пачынаюць падазраваць, што ўсё гэта гульня. Трэцюю ноч у Мантэлюпіху спаў дрэнна. Усё думаў, што рабіць. Магчыма, прызнацца, што для сустрэчы намечаны рэзервныя даты, на выпадак, калі рэзідэнт не зможа з'явіцца своечасова?

Не атрымаецца. Следчы не дурны і наўрад ці будзе глытаць такую прынаду. Ён з тых, хто мякка сцеле, ды цвёрда спіць. Здагадаецца, што яго водзяць за нос, і — бывай, апошні шанц.

Апошні шанц...

Што б ні здарылася — у турму не вяртацца. Лепш загінуць на людзях ад эсэсаўскай кулі, чым пад катаваннямі. Так я вырашыў і да следчага ўвайшоў зусім спакойны. На гэты раз ён не ўсміхаўся, не жартаваў:

— Што гэта ты, прыяцель, падводзіш сяброў? Заўтра мы з табой не так пагаворым.

Я сказаў, што пры такіх целаахоўніках працаваць нельга. Дзіцяці і то відаць, што гэта за людзі. Які ж дурань пойдзе на сустрэчу! Пан следчы, відаць, лічыць савецкіх разведчыкаў круглымі ідыётамі.

Следчы рассмяяўся:

— Ды ты, прыяцель, не зусім просты. Едзь. Будуць табе ўмовы.

...Яны па-ранейшаму ішлі следам, але пяць-шэсць метраў я адваяваў. «Цік-так, цік-так, цік-так», — адлічвала «Амега» апошнія мінуты. Уцякаць? Зараз? Нельга. Навокал людзі. Перастраляюць. І вулачка перакрыта гестапаўцамі. Чакаць, чакаць — яшчэ не скончыўся час.

Раптам выстрал, другі, трэці. Штосьці там адбывалася ў цэнтры плошчы, у самым сэрцы Тандэты. Партызаны? Пад-

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЖАНЧЫНЫ З МІХАЛОВА

Актыўна дзейнічае гурток вясковых гаспадынь (КГВ) у Міхалове, Беластоцкага павету; ім кіруе Вольга Гурская. КГВ налічвае 40 чалавек. У апошнія гады міхалоўскія жанчыны арганізавалі ў сябе кулінарныя і кравецкія курсы. Садзілі таксама фасолю. Сабраныя грошы склалі на ашчадную кніжку. Зараз КГВ цесна супрацоўнічае з кіраўніцтвам мясцовага цэнтра «Сучасная жанчына», а перш за ўсё з кіраўнічкай цэнтра Ірэнай Банькоўскай. У памяшканні, дзе цяпер знаходзіцца «Сучасная гаспадыня», жанчыны маюць свой куточак, дзе могуць праводзіць сходы.

У мінулым годзе члены КГВ збіралі макулатуру і бутэлькі, а сабраныя за іх грошы (80 зл.) пераказалі яны на пабудову Каралеўскага замка ў Варшаве.

(яц)

## ДЛЯ БЯСПЕКІ ВЁСКІ

У канцы снежня 1971 года сяляне Крывяціч зрабілі складчыну і нанялі капарку, якою выкапалі два супрацьпажарныя басейны. Вясною гэтыя басейны будуць абложаны бетоннымі плітамі і абгароджаны. Прадбачваецца ў Крывяцічах стварэнне супрацьпажарнай каманды. Ёсць ужо каля 15-ці добраахвотнікаў.

*Ваня Кірызюк*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Бацька апісаў завяшчаннем гаспадарку другой жонцы і памёр у 1961 г. Яго другая жонка аддала гаспадарку падчарыцы, якая за гэта забавязалася ўтрымоўваць яе да смерці. Памерла ў лістападзе 1971 г. Ці падчарыца, якая апрацоўвае гаспадарку, мае права да спадчыны?

АДКАЗ: Падчарыца не мае спадчынных правоў па мачысе без завяшчання, а, як вынікае з пытання, мачыха завяшчання не пакінула. Зразумела, што калі б умова аб пажыццёвым карыстанні з гаспадаркі з абавязкам утрымання яе ўласніка да смерці, была важнай, завяшчанне не было б патрэбным. Да гэтага аднак патрэбна натарыяльная форма.

У вашым выпадку з дапамогай прыходзіць закон з 26 кастрычніка 1971 г. аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак. Паводле гэтага закону, пададзеныя ў вашым прыкладзе ўмовы робяцца важнымі. Зразумела, калі яны заключаны перад уваходам у жыццё закону, г. зн. перад 4 лістапада 1971 г. І пасля гэтай даты абавязвае ў гэткіх выпадках натарыяльная форма. Закон робіць важнымі ўмовы аб пажыццёвым карыстанні з гаспадаркі за ўтрыманне, дастаўленае ўласніку гаспадаркі, заключаныя не ў натарыяльнай форме перад уваходам у жыццё гэтага закону.

Вы павінны звярнуцца да прэзідыума павятовай рады нарадовай, які сваёй пастановай пацвердзіць ваша права.

---

полышчыкі? Нічога нельга было зразумець у дзікім выцці, крыках, у тупаце соцень ног. Натоўп прарваўся і на нашу вулачку. Мяне таксама панясло. Я адчуў: настаў мой час. Цяпер або ніколі. Мільгануў разгублены твар аднаго з целаахоўнікаў. На нейкі момант нашы вочы сустрэліся. Працуючы локцямі, плячом ён рвануўся да мяне. Але я прыняў ужо рашэнне: не, жывым не здамся. Нырнуў у натоўп. Схапіў нейчы шыракаполы капялюш, нацягнуў яго да самых вачэй. Рызыкуючы быць затаптаным кінуўся ў суседні завулак. Азірнуўся — целаахоўнікаў не відаць. Пайшоў далей крокам, нетаропкай дзелавой хадой. Прахаднымі дварамі, правулкамі да Віслы.

У прыцемках апынуўся ля высокай каменнай агарожы. За агарожай цьмяна бялелі пабудовы, крыжы, купалы. З веснічак выйшла жанчына ў чорным адзенні, у высокім белым накрухмаленым каўняры. Веснічкі зачыніліся. Жаночы манастыр. Наўрад ці гестапаўцы будуць мяне тут шукаць. Дачакаўся цемнаты. Пераскочыў цераз агарожу і апынуўся ў густых зарасніках бэзу. Лёг пад куст і заснуў, як забіты. Прачнуўся адразу, нібы ад штуршка. Шарэла неба. Гаслі зоркі. Няўжо вольны? Спакойна, не кажы гоп, пакуль не пераскочыш. Цяпер трэба дзейнічаць вельмі асцярожна, разважліва, не спяшаючыся. Твае сляды пальцаў, фота анфас і профіль, дакументы — у руках гестапа. Ты не ведаеш, што з Гразой, Грушай. Значыцца, Кракаў, кракаўская яўка для цябе не існуюць. Трэба ісці праз Кашуў-Веляны ў Рыбні.

*(Працяг будзе)*

## ВЕСТКІ З ЭТНАГРАФІЧНАГА МУЗЕЯ

У 1971 г. Беларускі грамадскі рэгіянальны музей супольна з працаўнікамі і актывістамі БГКТ праводзіў зборку экспанатаў. У тэтым годзе зборка была праведзена з мэтай папаўнення ўжо існуючых аддзелаў музея новымі прадметамі, а таксама стварэння новых аддзелаў у музеі. Пры зборцы адзначыліся наступныя асобы: Віктар Бура, Васіль Дзун, Ірэна Аношка, Міхал Гурыновіч і іншыя. Дзякуем таксама ўсім школьнікам, якія памаглі нам у акцыі зборкі экспанатаў, з якіх адзначыліся Янка Дзямях і Янка Піруta з Хілімонаў у Дуброўскім павеце.

Ніжэй падаем спісак ахвярадаўцаў экспанатаў, якія яны перадалі неадплатна ў Беларускі грамадскі рэгіянальны музей у Белавежы:

ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ.

*Рэпіска.*

Васіль Зенюк — асёлка да касы, мера да латаў, кельня мурарская, санкі да плуга, матычка, ключкі да пляцення вяровак, стаянец для дзяцей.

*Ласінка*

Антон Юзвюк — форма на званякі, клямка да дзвярэй.

*Ваські*

Станіслаў Вяйкоўскі — ступа.

*Слабодка*

Міхась Харкевіч — гаршчок, мера, 6 ложак драўляных, ліхтарык, дываны.

ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

*Хілімоны*

Янка Януцік — дом для птушак,

Лявон Януцік — 4 часці да калаўротка,

Настуся і Надзя Каленік — маслабойка, столак,

Уладзімір Каленік — рамка да люстра, саламяны гаршчок,

Вінцук Каленік — 3 хадакі,

Марыя Каленік — палатно ўласнай работы, пояс (кройка),

Янка Піруta — вышываная кашуля,

Анна Мазалеўская — спадніца з фальбанкаю, два паясы (кройкі),

Люба і Лявон Кудзіны — барана вязаная, сурмавая ложка сваёй работы,

Янка Уладзімір Санік — прач, крупеля, вешалка на ручнік аздобная, шпуля да калаўротка, 3 кулі да пляцення вяровак, ключка да сена, столак, калатушка да току,

Варвара Каленік — апалонік, пошва на падушку аздобная.

БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

Іосіф Рагач — медаль Супрасльскага манастыра.




Ніжэй друкуем у цэласці пісьмо «Чытача «Нівы» з Рыбал, які прачытаўшы ў «Сэрцайку» крытычны ліст аб паводзінах рыбалаўскай моладзі стараецца выясніць гэтую справу. А вось яно:

«У № 1 «Нівы» з дня 2 студзеня 1972 года я прачытаў артыкул-крытыку аб ЗМВ-оўскай моладзі ў Рыбалах. Мне вельмі стала прыкра, калі я гэта прачытаў. Сам я з'яўляюся членам ЗМВ у Рыбалах і добра помню той вечар 28 лістапада 1971 г., калі адбылася тая вечарынка. Аднак «рыбалаўскі чытач «Нівы» толькі знаў з расказаў, як гэта «закапёршчыцы выганялі» Рэню. Зусім так не было. Яшчэ перад вечарынкаю меў адбыцца сход усіх членаў, на якім мелі абмяркоўвацца справы, якія цікавяць рыбалаўскую моладзь. А ў статуце ЗМВ гаворыцца, што «ўсе трэція асобы, якія не былі запрошаны, не павінны быць». І гэта нам пацвердзіў прадстаўнік камітэта ЗМВ у Бельску-Падляшскім. А Ніне Верамеюк, Валі Яцко і Марысі Свірыдзюк належыць толькі падзяка за тое, што споўнілі свой абавязак. Належыць яшчэ дадаць, што Ніна Верамеюк належыць да адных з найбольш актыўных дзеячоў і дзякуючы ёй ажывіўся зусім слабы раней гурток ЗМВ у Рыбалах. А Тоня Дзмітрук, бо гэта яна прывяла Рэню, не мае патрэбы гневацца на сваіх сяброўак і на рыбалаўскую моладзь. Калі яна гэта прачытае, напэўна зразумее.

З павагаю

Чытач «Нівы» з Рыбалаў».

## БЕЛАРУСКІЯ ПАЭТЫ НА СУСТРЭЧЫ З СТУДЭНТАМІ ВАРШАЎСКІХ ВУЗАЎ

18.12.71 г. у Інстытуце русістыкі Варшаўскага універсітэта адбылася «як аўтаномная частка балю» сустрэча з беларускімі паэтамі, згуртаванымі ў літаратурным аб'яднанні «Белавежа».

Арганізатарамі былі: гурток СВМ пры Інстытуце русістыкі Варшаўскага універсітэта і аддзел БГКТ у Варшаве. Прысутныя выслухалі інфармацыю Алеся Барскага аб літаб'яднанні «Белавежа» і вершы, якія чыталі самі паэты: Алесь Барскі, Аляксей Казбярук, Янка Чыквін і Віктар Швед. У сустрэчы прынялі ўдзел дырэктар Інстытута русістыкі дацэнт доктар Тадэуш Шышко, старшыня праўлення СВМ з Варшаўскага універсітэта Веслаў Шыманскі, прадстаўнікі Акруговай рады СВМ у Варшаве і праўленняў СВМ варшаўскіх вузаў.

Да позніх гадзін ночы да танцаў іграў аркестр з клуба на Сенатарскай 8.

*Белы*

## ПОЎНА ГРАЗІ



Многія людзі з бельскіх вёсак, між іншым, з Дубяжына, Кошак і Міклашоў, прывозяць маты, кошыкі і іншыя вырабы на пункт скупкі спулдзельчага аб'яднання саматужнікаў і народных вытворцаў у Бельску Падляшскім. На панадворку перад магазінамі і бюро, куды заязджаюць фурманкі, поўна гразі і глыбокіх ямаў. Нічога тады дзіўнага, што людзі губляюць тут нават абутак. У дапамогу наведвальнікам пункту скупкі, відаць, можа прыйсці толькі мароз.

*Тэкст і фота: (яц)*

---

## УЖО ВЫЙШАЎ З ДРУКУ ЛІТАРАТУРНЫ АЛЬМАНАХ

**Днямі выйшаў з друку другі літаратурны альманах «Белавежа». Налічвае ён 200 старонак і змяшчае творы членаў літаратурнага аб'яднання пры ГП БГКТ. Змешчаны ў ім таксама пераклад чацвертай часткі «Пана Тадэуша», зроблены Браніславам Тарашкевічам, і ўспаміны Людвікі Войцікавай аб Максіме Багдановічу. Альманах каштуе 20 злотых і можна яго набыць у ГП БГКТ і ў аддзелах таварыства.**

---

## «КУРЫЦЬ СТРОГА ЗАБАРОНЕНА»

У Паўлах (Бельскі павет) ужо год існуе клуб агародніка. Змяшчаецца ён у прыватным памяшканні Мікалая Апалінскага. Кіраўнічкай гэтага клуба з'яўляецца жонка гаспадара Ніна Апалінская. Яна вельмі ветлівая і дбае пра клуб. Можна там купіць розныя часопісы, цацкі, ласункі, напіцца фруктовага соку ці кавы. Вядома, клуб арганізаваны, каб было дзе правесці прыемна час. Аднак некаторыя наведвальнікі прыходзяць у клуб, відаць толькі дзеля таго, каб накурыцца папяросаў. Часам з-за дыму не відаць тэлевізійнага экрана, які часам некаторыя наведвальнікі хацелі б бачыць. Паспрабуй у такім дыме выпі каву або з'еш пячэнне: усё прасякнута дымным смуродам.

Падобная сітуацыя і на пункце скупкі малака. Пастаўшчыкі прыносяць малако раніцай, усе бачаць надпіс на сцяне «Курыць строга забаронена», але ніхто на гэта не звяртае ўвагі. Як збярэцца каля дваццаці пастаўшчыкаў, як кожны «бухне», дык нічога не відаць у злеўні. Пры такім дыме і малако копціцца і набірае непрыемнага паху. Ой, прыдалася б тут кніжачка з мандацікамі (хоць бы дваццацізлатовымі), можна было б нядрэнна зарабіць.

*Пастаўшчык*




«Сялянкі і іх ахвяры». Наколькі мы разабралі ваш ліст (вельмі цяжкі), вёску Мора апанавалі п'яніцы і лайдакі. Канкрэтных прозвішчаў не называем, бо ліст ананімны (не падпісаны). Калі ж сапраўды справы выглядаюць так, як у вашым лісце, трэба неадкладна зацікавіць імі адпаведныя мясцовыя ўлады (з павятовымі ўключна).

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

Кляшчэлі

„Oczami przyjaciół" (radz.), 25—26. „Gott mit uns" (jugosł.), 27—28. „Kłopotliwy gość" (polski), 29—30.

Нараўка

„Straszliwe skutki awarii telewizora" (czeski), „Los Golfos" (hiszpański), 26—30.

Нарва

„Kanał" (polski), „Irena do domu" (polski), 26—30.

Чыжы

„Effi Briest" (NRD), „Kardiogram" (polski), 26—30.

Дубічы Царкоўныя

„Pan Wołodyjowski" (polski), 26—30.

Арэшкава

„Dziki i swobodny" (ang.), „Okna czasu" (czeski), 29—30.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

Боцькі

„Kto wierzy w bociany" (polski), „Niewolnicy" (USA), 29—30.

Орля

„Czerwony namiot" (radz.), „Kardiogram" (polski), 26—30.

Райск

„Pejzaż z bohaterem" (polski), „Świeć moja gwiazdo" (radz.), 26—30.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

Крынкі

„Kochałam cię" (radz.), 25—26. „Tylko jeden telefon" (węgierski), 27—28. „Cyrk straceńców" (USA), 29—30.

Шудзялава

„Abel twój brat" (polski), „Krajobraz po bitwie" (polski), 26—30.

Янаў

„Legenda" (polski), 26—30.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

Нурэц

„Kapryśne lato" (czeski), 25—26. „Cudowna lampa Alladyna" (radz.), 27—28. „Własne zdanie" (bułg.), 29—30.

Мельнік

„Ostatnie dni" (polski), 25—26. „Timo Rinnelt porwany" (NRD), 27—28. „Cytadela odpowie" (bułg.), 29—30.

Мілейчыцы

„Francja naprzód" (franc.), 25—26. „Rzeczypospolita babska" (polski), 27—28. „Perła w koronie" (polski), 29—30.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

Сухаволя

„Milion za Laurę" (polski), „Pustelnia Parmeńska" (franc.), 26—30.

Новы Двор

„Krwawa bajka" (bułg.), „Miraż" (USA), 26—30.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7 30?

